№ 1 [4] — СТУДЗЕНЬ 1948 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

З ВЕДАЙ, ВЕРАЙ, НАДЗЕЯЙ І ЛЮ- БОЎЮ ДА ЛЕПШАЕ БУДУЧЫНІ.

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE». Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 30 фр.

Адрыс радакцыі: Adresse : Redaction, 35, rue de Sèvres, Paris (6).

Падпісная цана на год 300 фр.

## Новае пакаленьне

Беларускі рух у гісторыі і літаратуры звычайна называецца адраджэнскім рухам. Гэтым назовам выказваецца, што сучасныя стараньні беларусаў не зьяўляюцца нечым новым, але адраджэньнем таго, што існавала раней. Выхадным пунктам для адраджэньня звычайна прымаецца вялікакняжы дзяржаўны пэрыяд і залатую пару ў беларускай літаратуры з XYI веку. Але тады нашым грамадзкім жыцьцём верхаводзілі магнаты ды арыстакраты, а сёньня ў нашых радох гэтых людзей няма, дык які зьмест мае наша адраджэньне?

Мэта ведамая ўсім: мець сваю волю і незалежнасьць. Але хто будзе вартаваць яе? Адказаць на гэтае пытаньне: увесь народ, значыць не ўяўляць сабе ясна таго заданьня, якое спалучана з адраджэньнем; бо народ увесь час быў, а волю меў не заўсёды, а наваг маючы яе — страціў. Меў і бараніў сваю незалежнасьць і волю, калі на старожы народных інтарэсаў, на кіруючых становішчах стаялі людзі, якія былі сьведамыя сваіх абавязкаў і чэсна ды сумленна іх выконвалі.

Для нашых дзеячоў Залатое пары пуцяводным клічам у жыцьці быў сказ др. Фр. Скарыны: «Ня самі для сябе нарадзіліся на сьвет, але больш на славу Божую і для дабра грамадзкага». Шмат было такіх людзей, што для грамадзкага дабра не шкадавалі нічога. Вось В. Цяпінскі «з убогае свае маемасьці народу свайму услугаю» стараецца быць, не шкадуючы на гэтае апошняга свайго граша.

І не адзінкі, але ўсё перадавое грамадзтва, ўвесь народ меў падобны настрой. Усё шаснаццатае стагодзьдзе Беларусь мусіла адбіваць дзікія і крывавыя напады эўразыйскіх сілаў маскоўскіх цароў, што нядаўна вызваліўшыся ад татараў, скіравалі на захад усе свае сілы. Бязмала цэлае стагодзьдзе трывала гэтае крывавае змаганьне і народ ахвярна і пераможна адбівае гэтыя напады і бароніць Эўропу ад тае самае сілы перад якою мусяць бараніцца і сёньня. Нават тады, калі суседняя запрыязьненая Польшча замест помачы ўбіла меч у плечы беларускай дзяржаве, займаючы хлебародныя землі В. Княства, нашы грамадзкія дзеячы не зьняверваюцца ў ратунку свае бацькаўшчыны. Нават у бязвыхадным паложаньні на Люблінскім сойме канцлер В. Княства Ян Хадкевіч зьвяртаецца да караля з магутным і ўзрушаючым заклікам, каб «ня спала ганьба нам і нашаму патомству», за тое што мы нешта занядбалі ў ратунку «нашае атчызны».

Залаты век, гэта век нязморанага дзеяча канцлера Льва Сапегі, які прылюдна напамінаў сваіх суродзічаў, што сорамна ня ведаць сваіх правоў, а тым самым і сваіх абавязкаў.

Калі-ж на мейсца гэтых выдатных арыстакратаў цела і духа пачалі зьяўляцца ганаровыя арыстакраты крыві і косьці, ня маючы таго духа, што ў іх папярэднікаў быў жыватворчай крыніцай, дык гэтыя косьці пачалі абрастаць «сабачым мясам», як гэта вобразна назваў, слаўны Мялешка.

Сёньня ня толькі ў нас, але амаль па ўсім сьвеце паволі зьнікаюць арыстакраты крыві і косьці, але на іх мейсца пачынае вырастаць новае пакаленьне людзей: — арыстакратаў духа. Гэта людзі, якія чэсна і сумленна выконваюць свае абавязкі. Гэта запраўды лепшыя людзі, — арыстакраты выкананага абавязку.

Будучыня народу звычайна залежыць ад таго, якія людзі знойдуцца на яго перадавых становішчах. Згодна з сказам аднаго ангельскага філёзафа

«высокія становішчы падобны да вяршкоў пірамідаў; два роды сатварэнь займаюць іх: гады, або арлы». Такімі арламі і ёсьць тыя людзі, што чыстасумленна выконваюць усе свае абавязкі супроць Бога і грамадзтва, з якога-б гнязда гэтыя арлы ня вылятаў, ці з таго што на высокай гары, ці з таго што на хвоі. Пры гэтай нагодзе варта падчыркнуць тое, што дня 6-VIII-1947 г. прэзыдэнт Труман выказаў у лісьце да Сьвяцейшага Айца: «Я глыбока перакананы, што тыя, якія ня выконваюць сваіх абавязкаў супроць Усемагутнага Бога ня змогуць выканаць сваіх абавязкаў супроць сваіх бліжніх».

Найважнейшым заданьнем нашага грамадзтва ўзгадаваць якнайбольш гэткіх арлоў, якія-б чыстасумленна маглі працаваць «на славу Богу і для дабра грамадзкага". Гэта будзе запраўды тое новае адроджанае пакаленьне, перад якім разгорнецца сьветлая будучыня.

Звычайна лёгка і прыемна выконваць тыя абавязкі, за якія чакае нагарода і слава, але запраўдныя арыстакраты духа, калі стануць і на шляху Кастуся Каліноўскага, гледзячы сьмерці ў вочы, змогуць спакойна сказаць: «Бывай здаровы, мой родны народзе! Жыві ў шчасьці, жыві ў свабодзе... і не забудзь памаліцца за Яську свайго...»

Як-жа далёка ад гэтага ідэалу тое, што можна бачыць у некоторых нашых эмігранцкіх закутках?! Да якогу роду стварэньняў належаць тыя, што лаючы ўсіх і ўсё, самі палец у палец ня стукнуць для грамадзкага дабра? Не адраджэнскі гэта шлях, па якім яны йдуць і да дабра ён не давядзе.

Нельга бяскарна забывацца тае навукі, якая выплывае з гісторыі. Асабліва было-б пажадана, каб узгадаваўцы нашае моладзі гэтую навуку прынялі да сэрца.

# БОГ-АЙЦЕЦ

«Веру ў адзінага Бога-Айца», так зачынаецца нашае вызнаньне веры. Значыць ёсьць толькі адзін Бог і гэты Бог ёсьць адначасна нашым нябесным Айцом. У сьвятым Пісаньні так Старога, як і Новага Запавету можна знайсьці шматлікія чудовыя сказы, што сьцьвярджаюць бацькаўскія адносіны Бога да людзей. Лепш кажучы, дык нават і ня бацькаўскія, бо шмат большыя і прыязьнейшыя. Вуснамі прарока Ісаія сам Бог адзываецца да людзей: «Ці можа маці забыцца аб сваім дзіцяці, каб ня літавацца над сынам свайго лона?, але каб і яна забылася, дык Я аб табе ніколі не забудуся» (Іс. 39, 15).

Ніколі!

А калі я, Госпадзе, Цябе зьняважу, выракуся, зьняслаўлю? Калі я аб Табе забудуся?

Нават і тады: Не забудуся!

Бог сказаў: ніколі, і гэта Яго сьвятая воля і пастанова.

У прыповесьці аб страчаным сыне Хрыстос чудова выказаў гэтую Божую вернасьць: малодшы сын пакідае свайго бацьку; ідзе ў чужы край; траціць усю сваю маемасьць, чэсьць і падае так нізка, як агулам магчыма ўпасьці. Уканцы згаладнелы, абдзёрты, прыніжаны ўспамінае свой бацькаўскі дом і нясьмела пастанаўляе вярнуцца туды, каб быць там хоць найменшым слугою, але жыць палюдзку. Як толькі ён паказаўся на шляху да роднае хаты, бацька здалёк спасьцярог і Сам выбег яму на спатканьне, кінуўся яму на шыю і цалаваў яго, загадаў апрануць яго ў новую вопратку і справіць тучны банкет з радасьці, што вянуўся Яго страчаны сын. (Лук. 15, 11-32).

Ці мала хто з нас людзей ступае сьлядамі таго страчанага сына; адны далей, другія бліжэй, але над усімі намі ўважліва сочыць наш Нябесны Бацька і, палюдзку кажучы, з болем у сэрцы, чакае нашага павароту. Да таго Бацька Хрыстос вучыў маліцца: «Ойча наш, каторы ёсьць у Небе...» Гэта Ён корміць птушак нябесных, тых што ня сеюць, ня жнуць і ня зьбіраюць у сьвірны; гэта Ён чудова апранае палявыя лілеі прыгажэй чым Саламона ўва ўсёй сваёй славе, хоць гэтыя лілеі не працуюць і не прадуць. Калі траву палявую, што сёньня ёсьць, а заўтра будзе ўкінута ў печ, Бог так адзявае, дык ці-ж ня больш таго і вас малаверы, кажа Хрыстос. (Мат. 6. 26-30).

Ды ці толькі гэта? — Для вызваленьня людзей ад граху, для прамошчаньня сьцежкі між зямлёю і страчаным Небам, Бог не пашкадаваў Свайго адзінароднага Сына — Ён прыйшоў на зямлю, прыняў людзкое цела і ўсе людзкія немачы і перацярпеў за іх страшэнныя мукі ды сваім жыватворчым Крыжам злучыў нанава Неба і Зямлю. Але і гэта ня ўсё.

Ведаючы слабасьць людзкое натуры, скалечанае грахом, Хрыстос устанаўляе сьвятыя Тайны для ўпаўшых грэшнікаў. І гэта ня ўсё: Ён астаецца з намі людзьмі ў найсьвяцейшай Эўхарыстыі пад найпрасьцейшымі відамі хлеба і віна. Запраўды няма ніякіх межаў Божае любові да нас — немачных людзей.

Бог найдасканальшая істота, таму і ў сваёй любові Ён бесканечны. Ад людзей і ад сьвету Богу агулам нічога не патрэбна, наадварот стварыў Бог сьвет і людзей, каб падзяліцца тым сваім беска-

нечным шчасьцем, якім Ён поўны, тою сваёю бесканечнаю любоўю. Няма нідзе іншага шчасьця, як толькі ў Бозе. Дарэмна шукаюць людзі гэткага шчасьця па-за Богам. Таму ў сваёй бесканечнай любові чакае Бог, калі абяздоленыя грэшнікі пазнаюць свае памылкі і. навернуцца: Кажа Госпад: «Я жыву і ня хочу сьмерці няправеднага, але каб навярнуўся няправедны з свайго бязбожнга шляху і каб жыў» (Езэк. 33, II).

Добра, але ёсьць-жа страшнае мейсца вечных мукаў — Пекла, хіба-ж яно не ад Бога? Зусім пэўна ад Бога, але йдуць туды людзі самі, калі выразна супраціўляюцца Богу і адкідаюць Яго сьвятыя прыказаньні і не зважаючы на ніякія асьцярогі, якіх Бог нікому ня жалуе. Варта было разбойніку на крыжы зьвярнуцца да Ісуса: «Успамяні мяне, Госпадзе, калі прыдзеш у Царства Тваё», як Ісус зараз-жа запэўніў яго: «Запраўды кажу табе, сёньня-ж будзеш са Мною ў раю» (Лук. 23. 42-43).

Усё вышэйсказанае адносіцца да надпрыроднага парадку і таму людзі не заўсёды могуць адчуць бацькаўскую апеку Бога; наадварот часам здараецца, што адчуваем быццам нехта на злосьць нам кіруе нашаю доляю. На гэта трэба сказаць, што Бог ёсьць Бацькам ня толькі мяне аднаго, ня толькі нейкіх лепшых адзінак, але Бацькам усіх, і кіруе сьветам для агульнага дабра; Ён лепш ведае, дзе ёсьць наша запраўднае шчасьце. Каб хоць троха ўбачыць гэтае кіраўніцтва, трэба ўзьняцца ў нябесную высь. Калі-ж будзем глядзець на сьвет з вымогаў нашага чэрава, ясна, што бацькаўская апека Бога для нас будзе неспасьцярожная. На сьвет можна глядзець розна: інакш глядзіць на сьвет курка, штю грэбаецца на сьметніку, а інакш арол з вышыні свайго лёту. Ня трэба так-жа забывацца таго, што сам Бог сказаў: «Мае думкі, гэта ня думкі вашы... Як высока неба ўзьнята над зямлёю, так Маі шляхі ўзьняты над шляхамі вашымі і Мае думкі над думкамі вашымі» (Ісаія 55, 8-9).

У прыродным парадку ёсьць ня менш шматлікія доказы Божае любові да людзей і агулам да жывых стварэньняў. Навуковыя адкрыцьці апошніх стагодзьдзяў выяўляюць іх штораз больш на кожным кроку, толькі што мы на іх не зьвяртаем увагі, прывышкы спатыкаць іх штодзенна.

У міжзоркавых і міжплянэтарных прасторах ёсьць забойчыя для жыцьця касмічныя праменьні, але да нас яны не дайходзяць, бо атмасфэра, што акружае зямлю, іх не прапускае. Тое самае дзеецца і з ультрафіялетавымі праменьнямі, што іх паглынае атмасфэра. Уласьцівая атмасфэра мае пласт усяго якіх 6 км., але далей прасьціраецца даволі трубы пласт стратасфэры, на якіх 200-300 км.; дзякуючы гэткай таўсьціні паветранага пласту не далятаюць да зямлі ня толькі шкодныя праменьні, але нават мэтэорыты-спадаючыя зоры, якіх, у аграмаднай колькасьці прыцягвае да сябе наша земля, аднак дзякуючы закону церця, калі яны ўвайходзяць у атмасфэру, дык так награюцца, што згараюць, астаўляючы па сабе толькі бліскучыя сьляды падаючых зорак. Толькі большыя зь іх, якія не пасьпяваюць згараць, падаюць на зямлю і часам робяць паважныя шкоды на мейсцы ўпадку. А што-ж было-б, каб яны ўсе далятали? Ангельскі слаўны вучоны фізык Джуль (1818-1889) так адзываецца аб гэтым зьявішчы: «Мяне напаўняе падзіў і ўдзячнасьць кожны раз пры назіраньні чудовага ўладжаньня, якое зрабіў Створца для ахароны сваіх твораў. Без атмасфэры, каторая нас прыкрывае, як шчытам, мы былі-б выстаўлены на заўсёдную і бязвыхадную бамбардыроўку».

Самая атмасфэра, у якую ўсе жывёлы выдыхваюць атрутную вуглякіслату, бесперастанку ачышчаецца расьлінамі; яны зь яе забіраюць вугаль і частку тлёну на будову арганічнае матэрыі, а другую частку чыстага тлёну выдзяляюць у паветра. Прапарцыянальныя адносіны тлёну да азоту ў атмасфэры астаюцца заўсёды аднолькавымі 21:79. Гэта тым дзіўней, што адзін і другі элемэнт зужываецца не заўсёды ў аднолькавай ступені, а зьмена гэтых адносінаў выклікала-б сьмерць жывых істотаў, у першую чаргу чалавека.

Калі бачым, як з высокіх хмараў часам падае град, дык міжвольна прыходзіцца падумаць: якое гэта было-б няшчасьце для ўсяго жывога сьвету, каб уся водная пара, якая знайходзіцца ў паветры зьмерзлася ў адну груду лёду, пад веяньнем халоднага паветра, ды грунула на зямлю? Ласкавы Бог і тут унармаваў усё сваімі законамі, якія змушаюць пару паволі крышталізавацца ў прыгожыя лёгкія сьняжынкі зімою, або дробныя каплі ці градзіны летам, а іхнюю сілу разгону пры паданьні зьменьшыў дзякуючы супраціву паветра.

Бяз нашае веды і клопату вада працякае па схілах зямлі, зьвільготніваючы яе, і бяз нашае веды і клопату да гэтага адпаведна ўфармавана земля. Калі часам бачым маленькія, гнілыя вазёры, дык можам сабе ўявіць, што сталася-б, калі-б мора з сваёю стаячаю вадою загнілося? але і тут добры Бог паказаў сваю мудрасьць: у акіянах і морах вада заўсёды мае толькі солі, каб не дапусьціць да гніцьця, акрамя таго ёсьць марскія плыні і дэзынфэкуючае дзеяньне сонечных праменьняў.

А якая дзіўная санітарная ахова назіраецца на кожным кроку?! Трупы вялікіх і малых жывёлаў на працягу некалькі дзён так прыбіраюцца рознымі сьцярвятнікамі і гнільнымі жывучкамі-бактэрыямі, што толькі астаюцца бясшкодныя для жывых істотаў косьці, як сьведкі мінулае падзеі.

Да таго нават у самых жывых арганізмах рост і перамена матэрыі адбываецца зусім нясьведама.

Спажываць нейкую ежу, або не, гэта залежыць ад нашае волі, але пасьля спажыцьця далейшая яе доля аж да мамэнту калі яна становіцца складоваю часткаю жывога арганізму — гэта адбываецца бяз нашае волі і часта нават без найменшае сьведамасьці. А хіба ўсё льга пералічыць?

Словам, калі мы толькі прыглянемся ўважней дык на кожным кроку ўбачым дбалую апеку аб нас, нашага Нябеснага Бацькі. Калі-ж належна ўсьвядомім сабе гэты факт, тады зможам адчуць сябе ў палажэньні дзяцей пад апекаю усемагутнага Бацькі, які аб нас не забывае ні на хвіліну.

Аднойчы на моры лютавала страшэнная навальніца. У гэтым часе далёка ад берагоў знаходзіўся адзінокі невялікі карабель. Віхры кідалі яго, як шчэпку, па ўзбураных хвалях. Усе падарожнікі, што былі на караблі, з жахам чакалі, што вось, вось можа выбіць для іх апошняя гадзіна. Толькі адзін невялікі хлапчына спакойна забаўляўся, быццам у найлепшую пагоду. Зьдзіўленыя падарожнікі спыталі хлапчанё:

— Ці ты нічога не баішся? Гэта-ж нам пагражае сьмерць!

— Чаго я маю баяцца калі пры стырне стаіць мой бацька?!

Яго бацька быў капітанам карабля. Гэты хлапчына зьяўляецца добрым вобразам веруючага чалавека. Чаго нам лішне трывожыцца і лякацца заўтрашняга дня, калі стырном сьвету кіруе наш Нябесны Айцец — Сам Бог. Наша справа пастарацца быць Яго годнымі дзяцьмі.

**а. Леў.**

---

# Сучасны крызыс

Думаючы аб крызысе, маем на ўвеце часта адну толькі ягоную старану, мяноўна эканамічную, ці палітычную. У сапраўднасьці гэта адна толькі з праяваў трагічных нашых дзён, ломкі старога, пошукаў новага, нейкае вялікае сумятні ідэяў, лёзунгаў з павадырамі ўсякіх масьцяў. За гэнымі фрагмэнтамі, за жывымі дзеючымі асобамі, за падзеямі блізкімі нам асабіста, ня відаць сапраўднага жарала тае сумятні; ня бачым, як чэўне дасюлешняя форма праяваў душы, ня бачым, як паміраe, прыйшоўшы ў тупік, сучасная нам культура і цывілізацыя.

Ці сапраўды ніхто ня бачыць і не ўяўляе трагэдыі нашых дзён? Ёсьць людзі дальназоркія, цьвярозыя, правільна ацэньваючыя сытуацыю. Але іхні голас мала чутны сярод зьвягі падгалоскаў тых, каму патрэбныя чад і гоман ніжэйшых інстынктаў і почуваў чалавека.

З-паміж дыягностаў, пішучых у розных мовах, у розных частках сьвету, я хацеў-бы спыніцца над паглядамі А. Карелла. Кніжка, у якой гаворыць на нашую тэму аўтар, мае назоў «L'homme, cet inconnu» — (Чалавек істота няведамая). Вельмі цікаўна, што аб чалавеку, як аб нечым няведамым, піша біялёг, адзін з найбольш выдатных і заслужаных дасьледнікаў у сваёй спэцыяльнасьці. Прозьвішча аўтара шырака праслаўленае ў міжнародным сьвеце, як найбольш сьмелага экспэрымэнтатара над тайніцамі жыцьця. У сваёй кніжцы на некалькі сот бачынаў даў ён чытачу амаль поўную сынтэзу ўсяго, што навука ў сваіх разнаякіх галінах даведалася аб чалавеку, як аб суцэльнасьці біялёгічна - псыхічнай. І гэны вучоны называе аканчальна свой твор «Чалавек — істота няведамая»...

Некалькі стагодзьдзяў працяжнае працы ў лябараторыях, кнігарнях, нагляданьне за праявамі натуры паказала нам тайніцы й свомасьці матэрыі, дало ўладаньне над «небам і зямлёю», толькі ўсё гэта не дало адказу, не адчыніла нас самых перад сабою. Гэта тэза й адначасна выснаў Каррэля. Кажа ён, што ўвесь поступ цывілізацыі ня вырашыў найважнейшых, найбольш аснаўных праблемаў, чым можам прыдбаць чалавеку больш шчасьця, ад якіх дзейнікаў шчасьце залежыць. І здаецца, што не падыходзілі мы бліжэй да вырашэньня гэнага пытаньня, хаця ўсё было быццам накіравана да гэтага. Заміна ляжала ў памылковым сьветаглядзе, ў самой атмасфэры аднюсінаў да жыцьця. Матэрыялізм — вось калецтва чалавека. «Вера», што матэрыя крыніца й чалавека, й ягонага шчасьця, накіравала на фальшывы шлях пошукаў у напрамку ня тым, як трэба. Боль, цярпеньні паказвалі, што яно нейк ня складна йдзе, дамагаліся рэвізыі поглядаў.

Здабычы тэхнікі выклікалі вялізарныя перамены ў жыцьці штодзенным. Жывецца сяньня лепш і лягчэй, чым калісь. І хоць аўтар мае на ўвеце галоўна Амэрыку з ейнаю цывілізацыяю, можам зь ім без засьцярогаў згадзіцца. Бязумоўна сучасны пралетары й селянін жывуць і ядуць быццам лепш, чымся вяльможа некалькі стагодзьдзяў таму назад. Здабычы іншых эпохаў, ведамасьці тэхнічныя й агульныя, дзякуючы прэсе, дзякуючы агульнай шырокай асьвеце, узбагачваюць розум. Затое трудна казаць, каб маральнасьць паказвала аднолькавы поступ і была на вялікім узроўні. Вера ў матэрыю зрабіла непатрэбнай веру ў значэньні рэлігійным.

Як гэта пераломліваецца ў чалавеку? Усе меркаваньні й дзеяньні накірюўваюцца ў напрамку, які здаецца нам практычным і карысным. Тып адзінкі, якая вырастае ў такой атмасфэры, вызначаецца хітрасьцю, адсутнасьцю таго, што завём

«маральнаю хрыбетніцаю». Нястача маральнага фундамэнту, калі няма нічога сьвятога, пэўнага адклікаецца ў плошчы інтэлекту. Асьвета робіцца патрэбнай, паколькі яна мяркуе аб практычнай старане, няма імкненьня безінтэрэсоўнага паглыбіць яе.

З памылковых адносінаў да праўды жыцьця пачало яно выглядаць, як прыгожы твар адлюстраваны ў крывым люстры. Заняпад маральнасьці, нястача вялікіх ідэалаў, дэгэнэрацыя духовая й далей фізычная — вось дарожка, якая адчыняецца перад намі; а ўсё праз тое, што натура навукі й тэхнікі мела на ўвеце не найшырэйшае дабро чалавека, а толькі выкарыстаньне ўсіх магчымасьцяў адзінкі й грамады дзеля разьвіцьця й поступу гэнае-ж тэхнікі. Ніхто ня цікавіўся чалавекам - адзінкаю, ня ведалі, што забыліся аб сапраўдным зьмесьце чалавека. Забыліся, што самапазнаньне можа быць лекам на гэнае зраўнаньне ўсіх перад бажком — матэрыяльнаю цывілізацыяю.

Чалавек гэта крыху больш, чым пэўная колькасьць фізыка - хімічных свомасьцяў. Дзеля здароўя, значыцца дзеля добрага самапачуваньня, нятолькі важна тое, каб усе органы цела працавалі без пахібаў. Пачуцьцё якасьці інтэлекту, узровень маралі, агульнае разьвіцьцё духовае, — ўсё гэта двайнікі й складовыя часткі здароўя й якасьці адзінкі, і ня меньш важныя (калі ня больш) за старану чыста фізычную. Бяз гэных свомасьцяў вышэйшай катэгорыі бескарысным, ці нат' шкодным будзе тэхнічны поступ. Не навукі тэхнічныя, фізычныя й хімічныя дадуць нам мараль, здароўе, раўнавагу псыхічную й нэрвовую, пачуцьцё бясьпечнасьці. Ня толькі фізыка й фізыялёгія хай будуць асновамі ўзгадаваньня, трэба пакінуць належнае мейсца дзеля характару, праблемаў эстэтыкі, рэлігіі.

Ашчаднасьць, імкненьне да найбольшай карысьці й выкарыстаньня давялі да спэцыялізацыі, звужаючы й абмяжоўваючы агульныя магчымасьці паасобнае адзінкі. Жыцьцё-ж само ня ведае такое вызначнасьці й яно прымушае адзінку непадгатаваную выпрашаць у чужой ёй дзялянцы.

Дык ніколі ня можна абстацца бяз сынтэзы й бяз людзей, якія выпрацоўваюць сынтэзы, прынамсе найважнейшыя зь іх.

Дагэтулешнія нашыя ведамасьці аб старане фізычнай чалавека выраслі вельмі высока. Трэба аднак сказаць, што такія, вельмі простыя, хаця й аснаўныя адначасна пытаньні, як скажам: зьдзейсьненьне паняцьця, якія шляхі лучаць мозаг з думкаю? — яны да сяньня нам няведамыя й нявырашаныя. Ахвотна раўняюць арганізм чалавека з машынаю. Калі ёсьць тутака аналёгіі, дык ня трэба забывацца, што й розьніцы вельмі вялікія. Чалавек можа нясумерна больш падужаць, чымся выходзіла-б з магчымасьцяў ягонага цела, дзе нам здаецца мы ўсё разумеем.

Незалежна ад прыроднае адаронасьці, можна павялічыць інтэлект пры помачы працы — прывычкі да думаньня, спасьцярогаў, нутраное дысцыпліны. Затое пераход хуткі да новых уражаньняў, шматлікія перамены розных абразоў і перажываньняў, недахоп паглыбленьня, няўменьне ласьць да натугі — ўсё гэта спыняе разьвіцьцё інтэлекту. Можна было-б дадаць, што зашмат спортаў, лішне багатая яда пакідаюць ад'емныя сьляды на духовым росьце. Аднаго толькі інтэлекту мала на тое, каб стварыць веду. Навуковая праца, досьледы залежаць ня толькі ад розуму. У вялікай часьці гэта выплад інтуіцыі, уявы — іншых старон і праяваў духа. Толькі аднабокасьцю можам паясьніць крытычныя адносіны да мэтапсыхікі, тэлепатыі, шостага органу пачуцьця (К. Рышэт). Трэба прыйсьці да выснаву, што ёсьць у нас і пачуцьцё маралі. Яно слаба разьвітае часамі, гэта праўда, праца над ім пакінута рэлігійным установам (калі агулам пакінута). Гэнае пачуцьцё можна ўзгадаваць.

Незалежна ад пагляда трэба згадзіцца, што адзіным правілам паступаньня, у лепшым разуменьні гэтага слова, у адносінах паміж людзьмі, асталася хрысьціянская мараль. Праўда, нажаль, яна штораз больш цьвёрда адкідаецца, як нейкая пепатрэбшчына. Адначасна бачым, што мараль біялёгічная й прамысловая, як крытэрыі паступаньня, даводзяць да сытуацыяў сёньня ўжо добра ўсім ведамых між іншым і нам Беларусам... Бяз правілаў нутраных няма раўнавагі ў жыцьці асабістым, грамадзкім, дзяржаўным. **Маралі не накіне нам дзяржава!** Найбольш накіне нам яна межы, за якімі чакае нас кара. Апошная форма ўзгадаваньня ня будзе сапраўдным узгадаваньнем.

У хрысьціянстве наглядаем цікавае зьявішча, сёньня амаль, што нам незразумелае. Сьвятыя ў хрысьціянстве не найразумнейшыя, а найбольш стойкія характарам і моцнаю воляю. І сапраўды пачуцьцё маралі важнейшае ад розуму. Хараство маральнае можа нас хутчэй закрануць і скрануць, чымся хараство прыроды й навукі. Адначасна-ж яно павялічвае сілу інтэлекту. Яно зьяўляецца асноваю лепшае стараны нашае цывілізацыі й культуры у большай меры, чымся навука й мастацтва.

Умовы сучаснага жыцьця вабіваюць эстэтычныя патрэбы й аспірацыі. Арганізацыя працы нажаль накіроўваецца так, каб прыбіць эстэтычныя пачуцьці. І тутака прападае магчымасьць здабыцьця зэніту шчасьця, неабходнага, каб жыць нармальна, гарманійна. І вось гэнае гармоніі не хапае якга ў нашым сучасным жыцьці. Такі пагляд мае сваё абаснаваньне ў фізыялёгіі. Аднабокае раздражненьне даводзіць да закалоту ў дзейнасьці нат' чыста фізычнай. А пяршынство матэрыі й утылітарызму — гэтыя догматы промыслу—давялі да аднабокасьці ў разьвіцьці адзін-

кі, выкрывалі культуру інтэлекту. Імкненьне да карысьці, да багацьця робіцца ўсім і ўсё апраўдвае. Такія сытуацыі даводзяць да зъявішча амаль, што натуральнага для нас, што **ў вязьніцы сядзяць людзі толькі дурныя.** Іншыя, якім, скажам, трэ' было-б сядзець, карыстаюцца пашанаю й славаю. Астаючыся заўсёдна ў гэтай атмасфэры, чалавек пачынае да яе прывыкаць і не ўяўляе іншае магчымае рэчаіснасьці.

Бязвыхаднаю ўжо трагэдыяю будзе выснаў, бясспрэчны, што праца — гэта найвялікшае зло. Можна думаць, што ўвесь наш поступ накіроўваецца да таго, каб нічога, а прынамсь найменш рабіць. Другая трагэдыя, што чалавецтву не пакідаецца «надзеі» іншае, як тая, што меньш будзе працы й больш грошаў. Надзея — магутны дзейнік пры вучобе данараўленьня да новых умоваў. Багацьце ня будзе замінаю ў тых, ці іншых імкненьнях адзінкі. Замінаю ў багацьці будзе варожасьць да асяродзьдзя й консэрватызм, якія йдуць поруч з багацьцем.

Увесь склад нашага жыцьця такі, што яно не падтрымлівае індывідуальнасьці адзінкі, а заганяе яе ў тую, ці іншую форму. Да адʼемных старон сучаснае школы, абмінуць якіх здаецца аўсім немагчыма, належыць тое, што лішне рана дзіця мусіць увайходзіць у форму. Няма што казаць аб тых пэрспэктывах, якія робяцца вельмі актуальнымі, калі дзеці ад першых дзён будуць узгадоўвацца ў грамадзе бяз хатняе атмасфэры. Калі й будзе тутака натуральны падбор, дык ня ў добрым значэньні паняцьця.

Усё гэта, можна сказаць, адзін вялікі грэх проці натуры. Біялёгічная помста рэалізуецца залежна ад абставінаў і магчымасьцяў. Тутака помста праяўляецца ў тым, што цёк, разгон жыцьця слабее. Гібее ідэя...

Вось дробная жменя думак з кніжкі Каррэля, амэрыканскага вучонага. Як-жа дабітна падзеі апошніх гадоў пацьвярджаюць высновы аўтара. Кніжка яго — гэта крык адчаю чалавек, які глянуў грознай праўдзе ў вочы. Выход з сытуацыі бачыць ня ў поступе цывілізацыі й тэхнікі, а ў старых праўдах, даўно ведамых і таму недацэньваных, як трэба.

**С. Г.**

# Хрысьціянства і марксізм

### (ДА ПЫТАНЬНЯ СУЧАСНЕ ІДЭАЛЁГІІ).

Хаця на нейкі час прыціхлі ваенныя клічы, аднак і надалей вядзецца ня менш вострае змаганьне, змаганьне, на сьмерць і жыцьцё за так званую заходнюю культуру; гэта змаганьне ідэяў. Ідзе барацьба веры з бязбожжам, праўдзівае дэмакрацыі з яе карыкатураю «паступовай дэмакрацыяй», хрысьціянскага сацыялізму з марксістоўскім.

Каб уявіць розьніцу паміж хрысьціянскім і марксістоўскім сьветапаглядамі, тут падамо ў схэматычным супастаўленьні галоўныя праўды хрысьціянства і процістаўныя яму выдумкі марксізму. (Пар. В. Фальлён, «Прынцыпы сацыяльнай эканоміі». Выд. італ. Марiетта 1946 (LIV-LVI).

| Хрысьціянства | Марксізм |
|---|---|
| **РЭЛІГІЯ.** | |
| Найбольш блізкія і шляхотныя адносіны між чалавекам і Богам; дасканалае пасрэдніцтва да асабістага і грамадзкага узвышэньня; пэўная дарога да збаўленьня. | Опіюм і апʼяненьне душы. (Ленін), што ўжываюць багачы для гнёту і выкарыстоўваньня людзей бяднейшых клясаў. |
| **БОГ.** | |
| Трасцэндэтная, надпрыродная, духовая і асабовая Істота. Дзеючая моц, адвечнае Слова, самая Любоў. (Бог ёсьць Любоў. 1. Ів. 4, 8). Першапрычына ўсіх прычын | Ані Бог, ані нічога боскага ня існуе, ёсьць толькі матэрыя, што існуе сама ад сябе (матэрыялізм мэтафізычны, ілёзоізм)<br>У матэрыі ёсьць вечны нутраны супраціў ўласнай прыродзе: пазытыўнае — нэгатыўнае, тэза — антытэза; і гэта ёсьць прычынаю разьвіцьця і прагрэсу (дыялектычны матэрыялізм). |
| **СТВАРЕНЬНЕ.** | |
| Сусьвет стварыў Бог зь нічога, найвышэйшым актам розуму й любові. Сьв. Тамаш Аквін- | Сусьвет існуе спрадвеку. Чалавек гэта найвышэйшая ступень вечна разьвіваючаеся матэрыі, |

скі: «Бог ёсьць прычынай усяго існуючага праз Свой розум і волю».

Тым самым актам стварыў Бог чалавека на Свой абраз ў падабенства і даў яму ў пасагу разумную і несьмяротную душу з розумам вольнаю воляю і адказнасьцю за дзеяньне.

а вяршком чалавецтва ёсьць пралетарыят. Чалавек прывучаны да абмежаванага сталата парадку і адначасна бязвыхадна скіраваны, каб даваць з сябе працу, быць прадуцэнтам і спажыўцом. Уся дзейнасьць чалавека, як думка, рэлігія, веда, мастацтва — зводзяцца да тых эканамічных элемэнтаў.

Гісторыя чалавека пакрываецца з эканамічнаю гісторыяю (гістарычны матэрыялізм). У эканамічным змаганьні чалавек можа быць выкарыстаны падобна, як электрычны акамулятар. (Ленін).

## ХРЫСТОС.

Другая асоба сьв. Тройцы, прадвечнае Слова, што ў часе ўчалавечылася для адкупленьня людзей ад першароднага граху.

Нявінная, але адначасна дабравольная і ўзвышаная ахвяра.

Лягэндарная асабістасьць, якая ніколі ня існавала (з картатэкі дзяржаўнага савецкага музею).

«Апякун капіталістаў»; напіс на адным з плякатаў падчас аднаго з бязбожніцкіх паходаў).

## ПЕРШАРОДНЫ ГРЭХ.

Першапачаткавы акт гордасьці чалавека, якім ён жадаў стацца роўным Богу, ведаць дабро і зло. Выхад із стану ласкі і справядлівасьці.

Выкарыстоўваньне чалавека чалавекам. Эксплаатацыя.

## МЭТА ЖЫЦЬЦЯ ЧАЛАВЕКА.

Імкненьне да асягненьня засьветнага збаўленьня, каторае ёсьць поўным і вечным шчасьцем і карыстаньнем з Божае ласкі і прабываньня ў Божай прысутнасьці. Да асягненьня гэтае мэты чалавек падрыхтоўваецца праз выконваньне Боскіх прыказаньняў і людзкіх праваў. Запраўдныя людзкія правы ёсьць толькі адбіцьцём боскага права.

Барацьба клясаў уласьцівая эканамічнаму чалавеку. Няўнікнёнае закончанае разьвіцьцё зудара супраціўнасьцяў, уласьцівых для самае матэрыі. Зудар будзе патолькі бязьлітасьцівейшы і вастрэйшы, паколькі гэтыя інтарэсы шчыльней вяжуцца з істотным нутраным правам жыцьця. Удача зудару палягае не на сынтэзе дзьвёх крайнасьцяў, але на перамозе, якою зьяўляецца вытварэньне пралетарыяту, да якога даходзіцца праз зьнішчэньне буржуяў. Тады будзе вечнае зямное шчасьце, як вынік зрацыяналізаванага, разьмежаванага, калектыўнага жыцьця, што пачне разьвівацца ў напрамку чыстага аўтаматызму.

## ПРАЎДА.

Згоднасьць розуму з аб'ектыўнай рэчаіснасьцю. (Сьв. Тамаш Аквінскі).

Праўдай ёсьць усё тое, што пралетарскае сумленьне ўважае за праўду. Памылкай і абманам зьяўляецца ўсё тое, што з гэтым сумленьнем не пагаджаецца.

## ДАБРО І ЗЛО.

Дабро — удзельнічаньне ў Божым быцьці прыпадобніваньне сябе да Бога — першабытнае і адзінае крыніцы ўсялякага дабра.

Зло — абмежаваньне ў быцьці, нястача дабра.

Дабро — ўсё тое, што ў сваёй дзейнасьці прыносіць пралетарыят, згодна з сваім клясавым сумленьнем. «Усё што служыць да барацьбы клясаў і рэвалюцыйнага пралетарыяту ёсьць добрым» (Яраслаўскі).

Зло — усё тое, што ад буржуяў-багачоў.

## МІР І ВАЙНА.

Мір або супакой у сьвеце — гэта уладжаны трывалы парадак, як вынік справядлівасьці, узнагарода за пачын людзям добрае волі. (Прар. Ісаія. Евангельле. Тамаш Акв.).

Мір або супакой — жыцьцё пад адзін капыл, азначанае, скалектывізаванае, аўтаматычнае; мір асягальны на гэтым сьвеце; ён запануе пасьля зьнішчэньня буржуяў-эксплаататараў. Зьнішчэньне ёсьць неабходным; яно будзе вынікам

Дасканалы супакой, поўны мір і шчасьце асягальныя толькі ў надпрыродным сьвеце, каторы ёсьць апошняй мэтай разумнага сатварэньня. Мір ёсьць адным з плодаў Духа Сьвятога: «Плод Духа: любоў, радасьць, мір...» (Гал. 5, 22).

Вайна, як канечнае зло ёсьць толькі тады справядлівай і дапушчальнай, калі абʼяўляецца праваўмоцнаю дзяржаўнаю ўладаю і калі справядлівыя яе прычыны і мэты. (Абарона). (Аўгустын. Тамаш Акв.). —

неабходнай і бязьлітаснай грамадзкай вайны. Дзяржаўная вайна дапускаецца ў патрэбе абароны пралетарыяту супраць буржуазыі. Ленін: «Мы не зьяўляемся пацыфістамі. Было-б бязглуздзем адмовіцца ад вайны, каторая карысная для рэвалюцыйных інтарэсаў. Трэба замяніць імпэрыялістычную вайну ў грамадзкую». Бухарын: «Мы за гвалтам, ён ня ёсьць злом, але сьвятасьцю. Трэба будзе ўжываць сілы супраць буржуазыі і тады, калі яна будзе звалена з ног». Радэк: «Пралетарская рэвалюцыя з канечнасьці мусіць стацца крывавай". Канстытуцыя 1920 г.: «У часе капіталізму грамадзкая вайна, змаганьне клясаў з аружжам у руках ёсьць справядлівым і павінна ахапіць усю Эўропу». Торэз: «Мы з халоднай крывёю і спакойна чакаем ваеннага закалоту».

## ЦЯРПЕНЬНЕ.

Справядлівая кара за грэх і ўзвышаны шлях удасканаленьня і адкупленьня.

Цярпець — значыць ісьці сьледам за Хрыстом.

Цярпеньне — гэта адзін з доказаў больш неіснаваньня Бога. Заўсёды яго адкідаць, ніколі не пераносіць бяз рэакцыі. (Ленін). Цярпеньне — гэта немаральная навука хрысьціянства, каторае яго асьвячвае.

## ВОЛЬНАСЬЦЬ

Воля чалавека, якая выбраўшы дабро, прыстае да Бога — бесканечнага Дабра. Найвышэйшая вольнасьць — вольнасьць немагчымасьці грашыць. (Сьв. Аўгустын).

Акт розуму й любові, панаваньне над сабою самым і ахвяра за самога сябе. Няма вольнасьці без ахвяры і любові. Выбіраць зло не зьяўляецца вольнасьцю, але няволяю нізкіх гонаў. (Сьв. Аўгустын, Сьв. Тамаш Акв.).

Датарнаваньне самых сябе да неабходнай канечнасьці зьдзейсьніваньня пралетарскае мэты. Права ўжываньня ўсялякіх сродкаў: маны, подступу, гвалту, крыві і г. д., якія вядуць да мэты. (Прэображэнскій). Ненавісьць да апошняе ступені супроць інакшдумаючых. Канстытуцыя 1918: «Савецкая рэспубліка абяцае вольнасьць толькі працоўнай клясе». Ленін: «Пралетарыят карыстае з дзяржавы не для самае вольнасьці, але каб мець верх над праціўнікам".

З гэтага схэматычнага супастаўленьня некалькіх асноўных праўдаў, бачымо, якая пропасьць розьніцы між хрысьціянствам і дыялектычным марксізмам. Даволі задумацца на адну хвіліну, каб пераканацца, як пагубным зьяўляецца марксізм для фізычнага і маральнага жыцьця чалавека і для яго культуры. Ён выкінуўшы Бога з жыцьця чалавека, адкінуўшы вечнае жыцьцё несьмяротнасьць душы, прынцыпы этыкі і маралі сілаю й гвалтам раўняе да зьвяра разумную істоту — чалавека, створанага на абраз і падабенства Бога.

Дык ня дзіва, што ў тых краінах дзе гэтая нешчасьлівая філязофія прабуе завалодаць жыцьцём, жыцьцё стала горкім, дзікім і жудасным. Там сьвет замяняецца ў зьвярынец, **у якім датуль існуе парадак**, пакуль будуць абведзеныя калючым дротам лягэры-клеткі ды прыганятыя-дагляд чыкі «новага парадку» зь бізунамі ці жалезнымі качэргамі ў руках, каб ушчуваць двуногіх зьвяроў, а над імі цэлы сьцяг яшчэ лепш узброеных і люцейшых прыганятых. **а. Ч. С.**

# НЯУМІРУЧАЯ ІДЕЯ

**(Гістарычны нарыс).**

Няма на сьвеце такое ідэі, супроць якое не падымаліся-б варожыя галасы. Таму нічога дзіўнага, што й ідэя рэлігійнае еднасьці (Уніі) на Беларусі мела і мае нямала ворагаў. У гэтым няма нічога дзіўнага. Дзіўна аднак тое, што галоўным аргумэнтам супроць Уніі было і ёсьць цьверджаньне, быццам сама ідэя Уніі зьяўляецца чужою выдумкаю, створанаю выключна на шкоду для Беларусі і Беларусаў.

Варта толькі раскрыць старонкі нашае гісторыі каб увачавідкі пераканацца, што падобныя думкі могуць выказваць толькі або зусім ня знаючыя нашае гісторыі, або выключна із злое волі.

Не ўвайходзячы ў дыскусыю, падамо жменю

фактаў з гісторыі нашае Царквы, хай яны гавораць і сьведчаць самі аб сабе.

Хрысьціянства пачало ўводзіцца на Беларусі яшчэ за доўга да падзелу Цэркваў, які афіцыяльна стаўся толькі ў 1054 г. Значыць, хоць і прыйшло да нас хрысьціянства ўва ўсходнім абрадзе, але яшчэ тады, калі Хрыстова Царква была непадзеленаю, таму з самага пачатку хрысьціянізацыі Беларусь прызнавала над сабою зьверхнасьць Рымскага Архірэя і яго імя ўспаміналася на багаслужэньнях, падобна, як гэта было і ў самай Візантыі. Пасьля падзелу Цэркваў, Беларусь яшчэ доўгі час захоўвае послух Рымскаму Архірэю, бо сам разьдзел адбыўся якраз у той час, калі Кіяўская мітраполія, а зь ёю разам і Беларусь разарвала зносіны з Візантыяю, самавольна выбраўшы Іларыёна на кіяўскага мітрапаліта (1051-1055). Таму, самазразумела, што акт адлучэньня Візантыйскае Царквы не адносіўся да нас. Папская дэлегацыя, выкляўшы ў Канстантынопалі патрыярха Міхаіла Керулярыя, адразу выехала ў Кіяў і тут была прынятая з усімі почасьцямі, а з Кіява вярнулася ў Рым.

Аб лучнасьці з Рымам у далейшым сьведчаць нязьбітыя факты ў 1089 г. па загаду папы сьв. Урбана II на Беларусі пачалі сьвяткаваць сьвята перанясеньня мошчаў сьв. Мікалая (9-V), якога грэкі ня маюць да сёньня. У 1147 нашы эпіскапы, разам з украінскімі, абіраюць сабе бяз згоды Візантыі мітрапалітам Кіеўскім Кліма, і самі багаслаўляюць яго мошчамі сьв. Клімэнта папы. У гэтым самым часе часта прыходзяць папскія паслы ў Кіяў і наадварот. У 1180 г. смаленскі князь Раман Расьціславіч меў у сваіх школах настаўнікаў «грэкаў і лацінян». Сьв. Кірыла Тураўскі († 1182 г) у сваіх казаньнях пахвальна адзываецца аб намесьніку ап. Пятра; літаратурная крытыка яму прыпісвае нават такі твор, як «Пахвальнае слова Клімэнту Рымскаму». У 1186 г. полацкі князь Валадзімір дае дазвол каталіцкаму місыянэру Мэйнгарду для хрысьціянізацыі Латышоў. Полацкія князі наагул былі заўсёды так прыхільна настроены да Рыму і Захаду, што расейскія гісторыкі іх празвалі «западническими», а тураўскія былі гэткімі яшчэ ў большай ступені і нават заводзілі лацінскі абрад, за што яшчэ сам Уладзімір мусіў ваяваць супроць роднага сына Сьвятаполка, Тураўскага князя, што меў пры сабе лацінскага біскупа Рэйнбэрга.

Яшчэ на пачатку XIII в. на Беларусі адчуваецца моцны зьвязок з Рымам: сьв. Мэркуры Смаленскі († 1238) быў «родам рымлянін», сьв. Параскева, ігум. Полацкая, перад пагрозаю татараў едзе ў Рым і там паміраe († 1239) у аўрэолі сьвятасьці. Гэты час агулам азначаецца прыгожым уздымам рэлігійнага жыцьця і даў нашай Царкве найбольшы лік сьвятых.

Варожыя адносіны да Рыму стараліся прышчэпліваць мітрапаліты - грэкі яшчэ ў XII ст., але іх дзейнасьць разьбівалася аб той няпрыхільны настрой усходніх славян да грэкаў, аб якім адназгодна сьведчаць усе гісторыкі. Стараньні грэцкіх мітрапалітаў увясьці ў багаслужэньні грэцкую мову на места царкоўна - славянскай, так і асталіся бясплоднымі; відаць, што вучні і пасьлядоўнікі сьвятых братоў Кірыла і Мэтода мелі большы ўплыў і лепшы грунт, чым мітрапаліты - грэкі.

Ад палавіны XIII веку палітычныя абставіны зьмяняюцца так паважна, што прыхільнасьць да Рыму і Захаду ў нас зьнікаюць; на іх мейсца зьяўляецца варожы настрой. Галоўнаю прычынаю гэтага была крывавая дзейнасьць крыжакоў, і ад гэтага часу зьяўляецца на Беларусі Праваславіе з адценкам няпрыхільнасьці да Рыму, але адначасна пачынае слабець і духовае жыцьцё; і Праваслаўная Царква ня мае належнага ўплыву на суседнюю Жмудзь. Палякі выкарысталі гэта потым на шкоду для самае-ж Праваслаўнае Царквы.

З часам палажэньне пагоршываецца яшчэ ў тым сэнсе, што праваслаўны цэнтр пераносіцца зусім з Кіява ў Маскву і стае паслушнаю прыладаю маскоўскае палітыкі. Спроба В. Князя Гэдыміна ў 1317 г. унезалежніцца ад Масквы доўга ня ўтрымалася. Калі прыходзіць да ўлады Вітаўт, ён панаўляе спробу Гэдыміна; у 1414 г. склікае Сабор праваслаўных ерархаў у Наваградку, на якім выбіраюць незалежнага мітрапаліта Грыгора Цамблака. Каб яшчэ больш унезалежніцца ад Масквы і вызваліцца ад нападаў крыжакоў, ён пераконвае Цамблака прыняць рэлігійную Унію.

Спачатку Цамблак быў няпрыхільна настроены да Рыму, але ўканцы згадзіўся і з велічнай дэлегацыяй у 1418 г., спазьніўшыся на Сабор у Канстанцы, едзе ўпрост у Рым і там, у лютым 1418 г. на рукі папы Мартына V складае прысягу ад імя ўсяе Праваслаўнае Царквы Вялікага Княства і служыць урачыстую Літургію ў базыліцы сьв. Пятра. На жаль, хутка пасьля свайго павароту, ён уміраe ў 1419 г., а Вітаўт, заняты іншымі справамі, ня мае калі давясьці да канца распачатае аб'яднаньне. Аднак сама ідэя рэлігійнае Уніі пачынае пранікаць у што раз шырэйшыя кругі і здабываць сабе ўсюды прыхільнікаў. За сваю прыхільнасьць да Уніі смаленскі мітр. Герасім мусіў заплаціць жыцьцём; Сьвідрыгайла ў 1435 г. спаліў яго на кастры ў Віцебску каб здабыць прыхільнасьць у праваслаўных магнатаў, пры помачы якіх стараўся дайсьці да ўлады.

Некалькі гадоў пасьля гэтае падзеі справа Уніі зноў стае актуальнаю. На сусьветным Саборы ў Флёрэнцыі дайходзіць да ўрачыстага

падпісаньня 6-7-1439 г. акту паяднаньня між Зах. і Усходняю Царквою. Побач Візантыйскага патрыярха мітр. Ізыдар Кіяўскі і ўсяе Русі падпісвае акт Уніі і ў імені беларускіх праваслаўных епархіяў. Пасьля гэтага мітр. Ізыдар едзе ў Кіяў, дзе яго спатыкаюць з усімі належнымі пачасьцямі. Адтуль едзе на Беларусь; тут такжа яго ўрачыста прызнаюць сваім мітрапалітам. У Менску і Смаленску рыхтуюць яму самае шчырае прыняцьце. За тое, калі мітр. Ізыдар зьявіўся ў Маскве, Маскоўскі князь Васіль Васільевіч замыкае яго ў цюрму, адкуль выратаваўся ўцёкамі.

Але і гэтым разам Уніі ня доўга было суджана праіснаваць на Беларусі. Шмат на гэта зложылася прычынаў, але найважнейшымі былі тыя, што сам В. Князь Казімір быў у нядобрых адносінах з Рымам і выступаў супроць Флёрэнтыйскага Сабору, а найгоршым грабаром Уніі стаўся Віленскі рыма - кат. біскуп - паляк Матэй. Хоць і падтрымоўваў Унію Смаленскі князь Юры Люнгвіновіч, аднак спаткаўшы з усіх бакоў такіх магутных ворагаў на самым пачатку свайго існаваньня, яна не змагла доўга ўстояцца.

XV ст. ува ўсёй Зах. Эўропе азначаецца ўпадкам рэлігійнага жыцьця. На Беларусі палажэньне ня было лепшым. На грунце рэлігійнага заняпаду ў Зах. Эўропе ў XVI в. паўстае цэлая плойма розных рэфарматарскіх сэктаў. У абліччы гэтае рэфармацыі нараджваецца каталіцкая рэакцыя. Трыдэнскі Сабор прыймае цэлы рад важных пастановаў і на рэлігійнай арэне выныраюць нядаўна зарганізаваныя айцы езуіты. Але ў гэтым-жа часе Праваслаўная Царква на Беларусі ў сваім упадку пасгупае што раз далей. Праваслаўная шляхта ў 1585 г. заявіла афіцыяльна свайму мітрапаліту, што Царква знаходзіцца ў такіх злыбядах, у якіх ня была ніколі дагэтуль, ані хіба ў прышласьці ня будзе. Ня мейсца тут апісваць гэты заняпад, але досыць будзе сказаць, што калі на Беларусі зьявіліся рэфарматарскія сэкты, дык амаль усе беларускія магнаты і шляхта кінуліся туды гурмам, пакідаючы сваё «Праваславіе». У самай толькі Наваградчыне на 600 выдатных беларускіх родаў, толькі 12 аставалася праваслаўнымі. Тут вось і мае свой пачатак тая страшэнная хваля рэнэгацтва, якую так мастацка апісаў Сматрыцкі ў сваім «Трэносе».

Да барацьбы з сэктанствам у каталіцкай Царкве становяцца езуіты, яны-ж зьяўляюцца з гэтаю мэтаю на Беларусь у 1569 г. Нажаль да нас прыходзяць езуіты палякі і сваю дзейнасьць сьцісла вяжуць з палянізацыяю. Праца езуітаў хутка прыносіць намечаныя вынікі. Сэкты, якіх тады нарахоўвалася на Беларусі больш 70, зьнікаюць адна за другою; адбываюцца масавыя пераходы ў рыма - каталіцызм, але аднačасна пачынаецца палянізацыя. Тыя-ж, што астаюцца ў Праваславіі, шукаючы помачы звонку, пачынаюць аглядацца на Маскву, якая ўжо ад 1589 г. мае свайго патрыярха і набірае вялікае агрэсыўнае сілы. Гэта ўсё пасьля акту Люблінскае уніі адбываецца так хутка, што Беларусы раптам становяцца перад вельмі пагражаючымі фактамі. Трэба было неадкладна шукаць ратунку перад хваляю дэнацыяналізацыі і з Захаду і з Усходу. Тады вось зноў ажывае ідэя Уніі, якая-б захавала ўсходні абрад, але прыняла догмы заходняе Царквы і гэткім парадкам пазбавіла-б Маскву і Варшаву іх прэтэнзіяў да Беларусі.

Князь Кастусь Астрожскі адзін з першых застанаўляецца над гэтаю справаю і 21-6-1593 г. піша ліст да Берасьцейскага епіскапа Іпація Пацея, намячаючы галоўныя пункты Уніі. Беларускія і украінскія епіскапы з свайго боку робяць частыя зьезды і нарады, шукаючы ратунку і канчаткова доходзяць да пераканаңьня, што няма іншага выхаду: каб ратаваць народ, трэба пайсьці сьледам Флёрэнтыйскае Уніі.

Польскія рэлігійныя і сьвецкія дзеячы спачатку вельмі спрыяюча адносіліся да Уніі, пэўна-ж не бяз тайнае думкі выкарыстаць яе для сваіх камбінацыяў. У выніку ўсяго гэтага ў рэшце рэшт пасьля доўгіх перагавораў, нарадаў, стараньняў і тайных ды яўных зьездаў у 1596 г. дайходзіць да ўрачыстага падпісаньня і прагалошаньня рэлігійнае Уніі на Саборы ў Берасьці.

Супроцьунійныя дзеячы за гэты час такжа не бязьдзейнічалі. Між імі знайшоўся, абражаны ў сваёй магнацкай амбіцыі князь К. Астрожскі; знайшліся розныя тайныя і яўныя высланьнікі маскоўскага цара і патрыярха. Нават сам Візантыйскі патрыярх зьявіўся на Беларусі. Назьбіралася столькі «апякуноў», што аж кроў палілася зь Беларускага Народу. Найбольш не па душы была Унія для маскоўскіх цароў, бо яны ўжо ад 1505 г. называлі сябе: «Вялікія, Малыя і Белыя Русі самадзержавец».

Кульмінацыйным пунктам барацьбы за Унію, была сьмерць сьв. Ёзафата Полацкага 12-11-1623 г. Запраўды цудоўнае дзеяньне крыві сьвятых мучанікаў — навяртаюцца на Унію нават ягоныя забойцы. Нават сам Навум Воўк, што найбольш дзейна падрыхтоваў забойства, ня толькі стае уніятам, хоць і асуджаны на сьмерць, але і самую сьмерць з сьвятою пакораю прыймае, як пакуту за свой злачын. Самы заўзяты паборнік Уніі і аўтар «Трэнасу» мітр. Мялеці Сматрыцкі, хоць і знайходзіўся ў міжчасе далёка за межамі Беларусі, так-жа ў 1627 г. прыймае сьв. Унію і стае яе гарачым і адважным абаронцам. Ня будзем займацца падрабязна тэнымі падзеямі, сьцьвердзім толькі факт, што рэлігійная Унія, як форма славян.-кат. рэлігіі стае агульным беларускім веравызнаваньнем, аднačасна беларускія рэлігійныя дзеячы робяць паважныя старань-

аі сумесна з украінцамі ўтварыць свой Патрыярхат для Вял. Княства.

Пабачыўшы гэты факт, палякі перакінуліся з становішча прыхільнікаў у лягэр паборнікаў Уніі. Дайшло да таго, што кароль Жыгімонт III не дазволіў у Рэчыпаспалітай абвесьціць дэкрэту Апостальскага Пасаду з дня 7-11-1624 г., якім забаранялася вернікам і духавенству ўсходняга абраду перайходзіць у лацінскі. Аднак беларускія біскупы не зьняверваюцца ў змаганьні за абарону сваіх правоў і дабра Беларускага Народу.

Што да самае рэлігійнае барацьбы ў гэтым часе, дык трэба з усёю аб'ектыўнасьцю сьцьвердзіць, што яна хоць была запраўды, але ніколі ня была падобная да таго абразу, які малююць расейскія гісторыкі, стараючыся апраўдаць тую жахлівую барацьбу, якая адбывалася падчас касаваньня Уніі, бо-ж у Рэчыпаспалітай ня было ані Сібіру, ані таго жорсткага адміністрацыйнага расейскага сыстэму, якім карыстаўся цар. Да таго нельга забывацца, што зразу пасьля абвешчаньня Уніі, яна на Беларусі прынялася бяз ніякае засьцярогі і толькі пад уплывам замежных інтрыгаў распачалося змаганьне некалькі год пасьля, калі быў зроблены наступ супроць маральна ўпаўшых элемэнтаў.

Калі яшчэ і цяпер у некаторых кругох можна стрэнуць закід, быццам Унія мела быць мастом для палянізацыі, дык на гэта трэба сказаць, што хіба толькі папугай, які выхаваўся ў Маскве, можа паўтараць гэткія закіды. Беларускі Народ цэлых 243 г. йшоў гэтым «мастом» і да ніякае палянізацыі не дайшоў, а за тое Смаленшчына, якая па тэным «мосьце» ня ступала, зрусыфікавалася да страшэннай ступені. Не ад рэчы будзе заўважыць, што Праваслаўная Царква ў Польшчы за 20 гадоў свайго аўтакефальнага існаваньня запраўды спалянізавалася ў некалькі разоў больш, чым Унія за 243 г.

Пакуль Унія была на Беларусі, дык ані палянізацыя, ані русыфікацыя ня былі страшнымі, бо беларускае рэлігійнае жыцьцё ў унійным веравызнаваньні захоўвала беларускі характар. Не зважаючы на вышэйшую спалянізаваную часткова ерархію, на вёсках усюды казаньні гаварыліся пабеларуску, пяяліся беларускія рэлігійныя песьні. Нават у часе т. зв. поўнага заняпаду ў каталіцкіх школах на Беларусі для дробных разьвесяляючых прадстаўленьняў - інтэрмэдыяў ужывалася народная беларуская мова, хоць у польскіх школах гэта і выкарыстоўвалі для нядобрых мэтаў.

Таму якраз і скасавалі Унію, што яна была галоўнаю перашкодаю для русыфікацыі Беларусі. Адразу пасьля скасаваньня ў тым-жа 1839 г. забараняецца гаварыць казаньні пабеларуску. Хоць доўга і хітра падрыхтоўвалі гэнную касату Уніі, хоць, пакінуты сваімі грамадзкімі вярхамі, народ знаходзіўся ў бяспрыкладна жудаснай паншчыне, аднак доўга аставаўся верны сваёй бацькаўскай рэлігіі і не забудзецца аб ёй ніколі.

Калі беларускі адраджэнскі рух на пачатку гэтага стагодзьдзя пачаў разрастацца ўшыр і ўглыб, паступова займаючы ўсе галіны беларускага жыцьця, ня мог ён абмінуць беларускае рэлігійнае нівы. У 1908г. браты Луцкевічы навязваюць кантакт з украінскім грэка - каталіцкім мітр. Шэптыцкім і паўстае першы праект уваскрасеньня беларускае Уніі; знайшліся і беларускія сьвятары ахвотнікі да гэтай працы, але расейскі - царскі ўрад да гэтага не дапусьціў. Аднак стараньні не асталіся без адгалоску.

Падчас стараньняў тварэньня беларускіх ваенных фармацыяў у 1917 г. даволі частымі былі пытаньні нават з вуснаў магілеўскіх сялянаў, якія ўважаліся за найбольшых русафілаў: «А якая будзе вера ў нашай дзяржаве, бо-ж старая беларуская вера была Вунія»?

Пасьля першае сусьветнае вайны, як толькі зьявілася магчымасьць аднавіць стараветныя беларускія традыцыі, дык вернікі самі пачалі старацца аб утварэньні беларускіх уніяцкіх парахвіяў. Таму аднак, што ўся каталіцкая ерархія была ў польскіх руках, дык ізноў, як калісь, пачаліся дзеяцца розныя надужыцьці. Пакуль польская адміністрацыя і біскупы не занялі выразна варожае паставы супроць Уніі, удалося сарганізаваць на абшары Беларусі 30 прыходаў, далейшыя просьбы і стараньні, у ліку каля сотні асталіся дакумантамі часу. Варожае становішча палякаў да Уніі змусіла Сьвяцейшага Айца Пія XI сказаць ім моцнае слова: «Той не каталік, хто вораг Уніі», польская адміністрацыя на гэта не зьвяртала ўвагі. Рэпрэсіі супроць беларусаў-уніятаў з году ў год узрасталі: адміністратыўныя кары, рэпрэсіі, забароны, высяленьні, інтрыгі чаргаваліся адны за другімі. А ў 1938 г. дайшло да таго што па загаду палескага ваяводы Костэк - Бэрнацкага запячаталі уніяцкую царкву ў Угрынічах разам з Найсьвяцейшымі Дарамі — арыштавалі самога Хрыста.

Падчас першае бальшавіцкае акупацыі тайна быў утвораны для Беларусі Грэка - Каталіцкі (Уніяцкі) Экзархат, але падчас нямецкае акупацыі Экзарх а. Неманцэвіч, з прычыны злосных інтрыгаў, загінуў трагічна з рук нямецкіх С. Д. ў сьнежні 1942 г.

Аднак супроць усіх варожых сілаў беларуская унійная ідэя жыве і ніякім ворагам ня эдушыць яе.

Сілен княжа караць,
Галаву можаш зьняць,
Ня скуеш толькі дум ланцугамі.

кажа Я. Купала. Тымбольш ніхто ня скуе беларускае рэлігійнае справы, бо гэта справа Божая.

Хоць і кароценькі гэты нарыс, але выстарчае на тое, каб убачыць, якія глыбокія карані мае рэлігійная Унія на Беларусі і каму яна карысная, а каму шкодная.

Бог свае волі нікому не накідае сіламоц, тымбольш ня думаюць гэтага рабіць вернікіуніяты, але з адною просьбаю зьвяртаюцца да сваіх братоў - праваслаўных: Не абзывайце Унію, а разам з ёю і нас, рознымі няпрыстойнымі мянюшкамі і абразьлівымі словамі, бо якая з гэтага карысьць і каму? Лепш выказацца пазытыўнаю працаю на карысьць Беларускага Народу, хаця ў гэткай ступені, як уніяцкія сьвятары, бо час і абставіны сёньня гэтага вымагаюць ад усіх больш, як калі.

**а. Леў Гарошко.**

# Старабеларуская калядка

Каб даць прыклад старое рэлігійнае уніяцкае творчасьці, падаём бяз ніякіх зьменаў адну із старабеларускіх калядак з канца XVIII в., якую знайшоў Юры Верашчака ў 1923 г. ў стараўніяцкім службэніку, і якая, паводля яго думкі мела быць перапісана туды зь беларускае кантычкі, друкаванае ў Полацку ў канцы XVIII в.; гэта значыць якраз у часе, што ў беларускай літаратуры мае назоў «Поўнага заняпаду».

(Пар. «Крывіч», Нр. 4, 1923 г., б. 35).

У Бэтлееме, убогім доме,
У Іесіовым і Давідовым,
Стварыцель ніне ляжыць на сене;
Вол і асьляця грэюць дзіцяця.
Анёлы з неба ўсім даюць знаці,
Каб шлі пасполу Бога вітаці.
Самай паўночнай глухай гадзіны
Першы пастыры беглі к яскіні.
Кузьма з Дзямьянам, прад Хрыстам панам,
Пад самым дахам сталі са страхам.
Першы Мікіта рад Бога віта
Пры ясьлях стаўшы, кучомку зьняўшы.
Саўка з Яхімам, сваім братымам,
Скора прысьпелі, зара запелі.
Карусь з Тарасам гудзелі басам,
Бутрымка з Кантам пішчаць дышкантам,
Дзямід з Данілам загралі міла.
Барыс з Пратэсам сьпяшалі лесам,
Міхайла долам сьпяшаў з Антонам,
Грысь з Маланьнёю гналі ральлёю.
Раман з Ігнатам, са сваім братам,
Плылі тудою Эўфрат ракою.
Ярэмка з Косьцям быў першым госьцям,
Сядзеў у куточку на палазочку,
Цяртуху нюхаў, музыкі слухаў.
Назар з Карнюю прад храмінаю
Цераз канаўку паклалі кладку
Рупнай душою з рэзнай ступою.
Аўдзей паловы прынёс аслові,
Гаўрыла ў вечку бычаці сечку.
Зьвечна падданы усе Іваны
Рубяць масточак цераз паточак.
У той час рыбакі нуцілі ракі,
Усе па пляціцы далі Уладыцы.
Ярмей з Гапонам валы з прыгонам.
Енас з Юргасам з пушчаў Літвіны
Нясьлі Хрыстові з салам бацьвіны.
Хімка з Агапкай, дзьве маладзіцы,
У дар Хрысту далі дзьве галавіцы.
Астап з Макрэям, трэцім Нупрэям
Цяглі барана да Хрыста пана.
Піліп з Макарам са свойскім дарам,
З нівы радзімай, імі любімай,
Два хлябы ўзялі Богу падалі.
Малады й стары усе пекары
Разам з арачы нясьлі калачы.
Знахарка Дося сьпякла парося,
Пакуль дасьпела, сама ўсё зьела.
З радасьці оны чарнцы паклоны
Ныне злажыці к Богу бяжыця.
І вы, чарнічкі, у чаравічкі
Абуйця ногі з радасьці многі.
Вы небажаты, малы хлапчаты,
Сьпяшайце к Богу ў стайню убогу.
Кушнары з футра ня дрэце кутра,
Краўцы прастаньце скраўкі хаваці:
Сам Бог работу рачыць вам даці.
Кавалі гвозьдзі зрабеце з копу,
Абы абіці тую там шопу.
Гантары гонтаў і лат дадайце,
Сталяры дзьверы хутка гатуйце,
А вы, сьлясары, іх прырыхтуйце.
Усе шныцары, купна з маляры,
Да тае шопы робце аўтары.
Шкляры балоны да шопы оны,
Папрыпраўляйце, чэсьць Богу дайце.
А вы, стальмахі, робце лектыкі
Для прадвечнага Бога Уладыкі.
А вы, музыкі, скрыпкі вазьмеце
І Бога Спаса развесялеце.
Рымары узды і хамуціны
Прывезьлі ў дары Божьй дзяціне.
Вяльможы паны, Грэкі, Рымляны
Чэсна ўхадзілі, дары лажылі.
Дай-жа, о Божа, ўсім Цябе знаці
І на нябёсах блізь Цябе стаці.

# Агляд сучаснага паложаньня Праваслаўнае Царквы

**УКРАІНА.**

У галоўных рысах сучаснае рэлігійнае паложаньне ў Савецкай Украіне мала чым розьніцца ад Беларусі, хіба толькі тым, што ў Кіяве ёсьць Экзарх Маскоўскага патрыярха для Украіны. Сёньня Экзархам ёсьць мітр. Іван (Соколов). У 1947 годзе для асьветы духавенства адчынена ў Кіяве Духоўную Сэмінарыю — мае ўсяго 11 вучняў. Усе іншыя Цэрквы зьліквідавана, грэка-каталіцкі епіскапат увязьнена, а на яго мейсца павысьвячвана новых праваслаўных савецкіх ерархаў.

На эміграцыі Праваслаўная Украінская Царква вельмі раздроблена. Управа Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы на чале з мітр. Палікарпам знайходзіцца ў Нямеччыне і аб'ядноўвае 12 ерархаў, але яшчэ да сёньня астаюцца асобна мітр. Іларыён і арх. Палладій.

У Амэрыцы, як ўспаміналася вышэй, ёсьць свае незалежныя Украінскія Цэрквы.

Міма стараньняў, навязаць малітаўную лучнасьць з іншымі царквамі, пакуль што, спадзяваных вынікаў не асягнена, хоць Візантыйскі патрыярх Грыгоры VII прызнаў Украінскую Аўтакефальную Царкву яшчэ ў 1924 г., але чамусьці на гэта ня вельмі зьвяртаюць увагу.

**ФІНЛЯНДЫЯ.**

На чале Фінляндзкае Аўтакефальнае Царквы ад даўжэйшага часу і да сёньня стаіць арх. Герман (Ааав). Спробы Маскоўскага патрыярха, далучыць яе да сябе, пакуль што скончыліся нічым, далучыліся толькі расейскія прыходы ў Гэльсініках і адзін манастыр.

Фінляндзкая Прав. Царква трымаецца новага календара, мае голенае духавенства і т. п.

**ФРАНЦЫЯ.**

Па колькасьці незалежных праваслаўных Цэркваў Францыя ня ўступае Амэрыцы. Частыя зьмены ў арыентацыях і замкнёнасьць у сабе некаторых Цэркваў значна абцяжваюць іх дакладнае разрозненьне.

1) Экзархат Усяленскага Патрыярха для Зах. Эўрапэйскае Прав. Царквы — пасьля сьмерці мітр. Еўлогія сёньня Экзархам зьяўляецца мітр. Уладзімір (Тіхоніцкій). Маецца каля 65 прыходаў.

2) Экзархат Маскоўскага патрыярха для Зах. Эўропы — Экзархам назначаны мітр. Серафім (Лук'янов), да помачы прысланы з Масквы арх. Фотій. Налічваецца 11 прыходаў ува ўсёй Францыі.

3) Расейскі Зарубежны Архірэйскі Сынод мае так-жа свайго прадстаўніка ў Парыжы (Мэдон) еп. Нафанаіл. У Францыі яму падлягае 11 прыходаў, да таго яму падлягае расейская эміграцыя (часткова) ў Бэльгіі і Англіі.

4) Францускшая Праваслаўная Царква мае два прыходы і хіліцца ў бок Маскоўскага Патрыярхату.

5) Грэцкая Праваслаўная Царква мае свае прыходы ў большых скупішчах грэцкае эміграцыі, пераважна ў большых гандлёвых гарадох.

6) Украінская Аўтакефальная Правас. Царква мае зарганізаваны прыход у Парыжы. Пасьля выезду ў Канаду еп. Мсьціслава чакаецца яго наступнік арх. Аляксандар.

**ЧЭХАСЛАВАКІЯ.**

Нешматлікая Чэская Прав. Царква, якая раней залежала ад Сэрбскага Патрыярхату ў зьмененых абставінах ад травеня 1946 г. падлягае Маскоўскаму патрыярху. Цяпер ёю кіруе прысланы з Масквы арх. Елевферый, нагароджаны за сваю працу ў Ростаўскай епархіі мэдалём «За доблестный труд».

**ЭСТОНІЯ.**

Аўтакефальная Эстонская Царква за кароткі час свайго існаваньня была ліквідавана 2 разы Маскоўскім Патрыярхатам. Першы раз 30-III-1941 г. і апошні раз 6-III-1945 г., ад гэтага часу практычна зьліквідавалася зусім, бо сам арх. Павал Талінскі памёр у 1946 г. цяпер яго пасад заняў нававысьвячаны ў Ленінградзе еп. Ізыдар.

**ЮГАСЛАВІЯ.**

Зь некалькі ранейшых аўтакефальных Цэркваў на абшары сучаснае Югаславіі, пасьля першае сусьветнае вайны, асталася толькі Сэрбская Прав. Царква, што мае аўтакефалію ад 1879 г. і кіруецца патрыярхам з аседкам у Белградзе. Вернікаў мае 5, 5 мільёнаў. Патрыяршы пасад сёньня займае патрыярх Гаврііл.

Пад рэжымам марш. Тіто Сэрбская Прав. Царква панесла паважныя страты, але пакуль што трымаецца моцна сваіх пазыцыяў. Нядаўна ўлада зрабіла спробу разьбіць гэтую Царкву. З гэтаю мэтаю заснавана «Абшчыну сэрбска - праваслаўных сьвятароў» пад старшынствам растрыжанага сьвятара Ратка Эліса. Гэтай «Абшчыне» даручана ўпарадкаваць справы Сэрбскае Царквы і ўстанавіць добрыя суадносіны між Царквою і дзяржаваю. На шчасьце да іх не далучыўся ніводзін епіскап.

Расейская праваслаўная эміграцыя на абша-

ры Югаславіі падлягае Маскоўскаму патрыярху, і ад яго імені ўпраўляецца еп. Уладзімірам.

Аб некаторых Цэрквах ў гэтым аглядзе сказана вельмі агульна таму, што або няма магчымасьці азначыць іх стану дакладней ў сучасны мамэнт, або таму, што няма адпаведных даных. Аднак і гэтага агляду даволі, каб ясна пабачыць, у якім стане знаходзіцца сёньня Праваслаўная Царква.

# Раство

На беспрасьветным нашым бездарожжы
няўзнак абыйдзем плач жабрачай леры,
сям'ёю дружнай пры Сьвятой Вячэры
згадаем дом свой — сумны і прыгожы.

Палынуць думкі па Дзьвіне, па Сожы,
па Нёмне — ўсюды — праз пацёмак шэры:
— Настала радасьць — стукацьмуцца ў дзьверы —
радзіўся, людзі, Збаўца ваш, Сын Божы!
Спавіты змрокам лятуценьні нашы,
п'ём сьлёзы мукаў зь недапітай чашы.
Сьвятла шукаем — не знайшлі нічога.

О, дзе-ж вы, дзе-ж вы, што цяпер ня з намі?
На кручах сьвету не спачынем снамі,
Спаткаем разам прыйсьце Дня Сьвятога.
1947.

**Алесь Салавей.**

# Адзін Бог у Трох Асобах

Аднойчы францускі сьвятар а. Дэгранж меў у Парыжу дыскусыйную канфэрэнцыю аб найсьвяцэйшай Тройцы. Пасьля канфэрэнцыі адзін з слухачоў просіць слова і кажа:

— Вы, ойча, гаварылі, што ёсьць тры Божыя асобы і што кожная зь іх ёсьць Богам, і аднак ёсьць толькі адзін Бог. Вось-жа ўжо дзіця з першае клясы пачаткавае школы ведае добра, што адзін, ды адзін, ды яшчэ раз адзін будзе разам тры,а не адзін. То-ж ў вашым доказе ёсьць найвыразьнейшая супярэчнасьць.

— Хіба вы, паважаны спадар, адказаў сьвятар, ня скончылі нават першага адзьдзелу пачаткавае школы і ня ведаеце аб існаваньні арытмэтычнага дзеяньня множаньня, паводля якога адзін памножыць праз адзін і яшчэ раз праз адзін будзе адзін. Я якраз множыў, а не дававаў.

— Чаму браць адзін? спрабаваў супраціўіцца пад агульны сьмех у залі апанэнт. Возьмем напрыклад 10; дык 10 памножыць на 10 і яшчэ раз на 10 будзе 1000, а не 10.

— Паважаны спадар, сьмела адказаў сьвятар, я выразна казаў, што Бог ёсьць адзін, але Ён большы за ўсякі лік, Ён ёсьць бесканечнасьць, а бесканечнасьць памножыць праз бесканечнасьць і яшчэ праз бесканечнасьць зноў такі будзе бесканечнасьць.

На гэта заля выбухла гучным сьмехам і бурнымі воплескамі, а зьмяшаны апанэнт, пачырванеўшы з сораму, схаваўся ў грамадзе.

# ХРОНІКА

## АДРАМАНТАВАНАЯ СЬВЯТЫНЯ.

Журнал Маскоўскае Патрыярхіі ў Нр. 9 зьмяшчае кароткую заценку Віленскага Сьвята-Духаўскага архімандрыта Іоны, што «12-га жніўня т.г. закончаны рамонт царквы Віленскага Сьвята - Духаўскага першакласнага мужчынскага манастыра, спаленага немцамі, а сёньня ў ім адкрыта прабываюць у водары сьвятыні мошчы сьвятых віленскіх мучанікаў Антона, Івана і Еўстафія. Рамонт манастырскае царквы дакананы із складак вернікаў і ахвяры сьвяцейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксея».

Відаць багаты сучасны Маскоўскі патрыярх: адбывае падарожжы ўва ўсе канцы сьвету на самалёце, раздае багатыя падарункі ўсім свім гасьцям, дае стыпэндыі і на рамонт можа яшчэ даць адпаведныя сумы.

## НОВАЯ ХВАЛЯ ВЫВАЗАУ.

Асобы, якія былі навязалі лістоўную лучнасьць з бацькаўшчынай, ад некаторага часу ня маюць ніякага адказу на свае лісты. Гэта выясьняецца тым, што на бацькаўшчыне беларускі народ апошнім часам перажывае новую хвалю вывазаў усіх падазроных у «далёкія краі Поўначы». Бальшыня вывезенных асуджана на 10 гадоў высяленьня.

## АНГЛІЯ.

### Купля Дому.

Купля Беларускага Дому ў Лёндане ажыцьцявіцца тады, калі будзе сабрана адпаведная сума на будынак, які-б здавальняў вымогі беларусаў у Лёндане. Каб прысьпяшыць гэты мамэнт, вядзецца далейшая зборка ахвяраў і складак.

## АРГЭНТЫНА.

### Новая эміграцыя.

У гэтым годзе прыехала ў Аргэнтыну між новымі эмігрантамі некалькі больш актыўных беларусаў і навязаўшы лучнасьць з старэйшымі эмігрантамі, стараюцца аднавіць беларускую арганізацыю, якая ад 1932 г. да вайны існавала ў Розарыё.

## ВЭНЭЗУЭЛЯ.

### «Каб мелі крыльлі...»

Цяжка жывецца ў лягэрах Д.П.. але неабдуманы і незарганізаваны выезд у няведамыя краіны можа быць яшчэ горшым. Тыя беларусы, якія з Аўстрыі выехалі ў Вэнэзуэлю, прыслалі сваім знаёмым лісты, у якіх апісаўшы нялюдзкія ўмовы працы і безнадзейнае палажэньне дасłоўна гаворыцца: «У Аўстрыі мы яшчэ гора ня бачылі, яно спаткала нас тут, ...каб мы мелі крыльлі, дык-бы мы прыляцелі назад да вас...»

## КАНАДА.

### Свой часапіс.

Прыплыў новае беларускае эміграцыі ў Канаду і арганізацыйныя стараньні пасоўваюцца наперад. Ужо пароблены стараньні для выдачы свайго часапісу. Усім беларусам у Канадзе варта для ўзаемнае карысьці зьвяртацца на адрыс:

Akula Kastus, c o Andrej Ponicky, R. R. 2. Oshawa. Ont.

## БЭЛЬГІЯ.

### Стараньні аб утварэньні Цэнтралі.

Дня 3-1-48 сакратар Гэнэральнай Рады Саюзу Беларусаў у Бэльгіі падаў на рукі гэнэральнага сакратара Цэнтралі Хрысьціянскіх Сындыкатаў у Бэльгіі мэмарыял з просьбаю ўтварэньня Беларускага Сындыкальнага Цэнтру для беларускіх работнікаў у Бэльгіі з аседкам у Ліежы.

### Заклік.

Сындыкат Беларускіх Работнікаў у Бэльгіі яшчэ раз зьвярнуўся з заклікам да беларускіх работнікаў у Бэльгіі, каб гуртаваліся ў радох Сындыкату для абароны сваіх грамадзкіх і нацыянальных правоў. Ува ўсіх справах сындыкату зьвяртацца на адрыс:

Centrale Syndicale des Travailleurs Bielorussiens en Belgique, 29, rue St.-Gilles, Liège. Liege.

## НЯММЕЧЧЫНА.

### Малітва за Бацькаўшчыну.

Як ужо паведамлялася ў папярэднім нумары нашага часапісу, у некаторых беларускіх лягэрах нават пасьля «Тыдня малітвы за Беларусь» адбываліся ўрачыстыя багаслужэньні ў гэтымжа намеру. 27-11 у Остэргофэне ў каталіцкай і праваслаўнай сьвятынях, 28-11 у Віндзішбэргэрдорфе ў каталіцкай і 30-11 у Мюнхэне так-жа ў каталіцкай сьвятыні. Для каталікоў Службы Божыя адправіў а. Маскалік, а для праваслаўных а. праф. Сьцяпанаў. І праваслаўныя і каталікі беларусы ўдзельнічалі на ўсіх багаслужэньнях: сьвятары так-жа былі прысутныя ўзаемна на багаслужэньнях. Вялікае і прыемнае ўражаньне зрабіў на прысутных а. праф. Сьцяпанаў, калі пасьля багаслужэньня падыйшоў у царкве да прысутнага там а. Маскаліка і прывітаў яго брацкім пацалункам.

У Остэргофэне і Віндзішбэргэрдорфэ пяяў беларускі хор, а ў Мюнхэне ўкраінскі, там-жа да сабраных прамовіў Апост. Візытатар Эксц. Вояківскі з прынагадным і цёплым словам.

### Зьмена адрысу.

Беларуская Тэатральная Студыя, з прычыны недагодных умоваў вучобы, перанеслася з лягэгу Міхэльсдорф у Остэргофэнскі лягэр.

### Перавыбары каманданта і рады.

У беларускім лягэры Міхэльсдорф адбыліся перавыбары каманданта і радных лягэру.

### Суд над скаўтамі.

Па абвінавачаньні сучасных кіраўнікоў лягэру Міхэльсдорф, адбыўся перад амэрыканскімі ўладамі працэс над скаўтамі. Дзякуючы заступніцтву беларускага грамадзянства скаўты змаглі абараніць свой беларускі і скаўцкі гонар.

### Запісы на працу.

У Зах. Нямеччыне па ўсіх лягэрах Д. П. адбываюцца запісы на працу ў Англію і Канаду бесьсямейных мужчын і жанчын. Шмат запісалася на выезд у Англію.

### Новы подступ.

Ведаючы настроі нашага сялянства, якое без свае нівы ня можа жыць у бязьдзейнасьці, розныя агэнты выкарыстоўваюць гэта для сваіх мэтаў. Нядаўна быў зьявіўся ў лягэрах зарубэжны праваслаўны сьвятар, што запісваў ахвотнікаў на калё-

нії ў Аргэнтыне зь вельмі дагоднымі ўмовамі. Ахвотнікаў знайшлося шмат; людзі плацілі на запісе па 80 марак «на лапату» і з радасьцю чакалі выезду. Калі-ж перапісь была скончана, аргэнтынскі агэнт аказаўся савецкім «праваслаўным агэнтам" і зьнік разам з сьпіскамі і грашыма.

**Выдатны юбілей.**

Шматзаслужаны беларускі кампазытар М. Равенскі ў 1947 г. абходзіў 35-ыя ўгодкі свае творчае працы над беларускаю песняю. З гэтае нагоды вучнёўская моладзь аднае з лягэрных беларускіх гімназіяў наладзіла заслужанаму юбіляту ўрачыстую авацыю, падчас якое паважанага кампазытара абсыпала кветкамі.

М. Равенскі сваёю працаю зрабіў паважны ўклад у скарбніцу беларускае песьні, даючы шмат арыгінальных кампазыцыяў і гарманізуючы народныя і рэлігійныя мэлёдыі.

Жадаем дастойнаму юбілянту, каб Бог захаваў яго і ўспамагаў у творчай працы на даўжэйшыя годы.

**ФРАНЦЫЯ.**

**Супольная Куця.**

Згодна з традыцыяю папярэдніх гадоў невялікая беларуская калёнія ў Парыжы спаткала Нараджаньне Хрыста супольнаю Куцёю, якую сёлета наладзілі ў памешканьні Хрысьціянскага Сындыкату. За супольным сталом, як адна сям'я, сядзелі жыхары з розных куткоў Беларусі.

**П О Ш У К І:**

**Гэлін** Кастусь шукае **Кішку** Міхала і яго брата зь вёскі Вялікія Палаўкавічы, Случчына, якія выехалі ў Амэрыку перад вайною 1914 г. Пісаць на адрыс:

**Mr. Helin Constantin, Baraquement L. M. A. Aulnoye (Nord). France.**

**Буйвілу** Рыгора, які да 1945 г. быў у Нямеччыне і дзядзьку Сымона **Копань,** які перад вайною выехаў у Амэрыку, шукае Буйвіла Янка. Пісаць на адрыс:

**Mr. Bujvilo Jean, Ferme du Guichet à Vert-le-Grand (S. et O.). France.**

**Пэрэсько** Уладзімір з Аргэнтыны шукае сваіх сваякоў. Пісаць:

**Pieresko Wladimiro, Cadete c. Larguìa 1021, Buenos-Aires. Argentine.**

**Філіповіч** Мікалай з Паўн. Амэрыкі шукае братоў Уладзіміра і Эўгеня Філіповіч з Віленшчыны, якія апошня працавалі ў Нямеччыне. Хто аб іх што ведае, просіцца пісаць на адрыс: **Filipowich M., 41 Whitehead Ave, South River. N. J. — U.S.A.**

Матку **Татур** Вікцю і брата **Татур** Рамана, шукае Татур Альбэрт.

**Кучура** Мікалай зь в. Залесься Жыровіцкае вол. Слонімшчына, шукае сваякоў і знаёмых.

**Врублеўскі** Міхал, зь вёскі Слабкоўшчына, Пастаўскага павету, шукае жонку Гэновэфу і дзяцей: Вацлава, Станіслава і Ядзьвігу. Пісаць на радакцыю.

**Яцыну** Івана с. Сьцяпана з в. Курчына, выехаўшага перад вайною ў Францыю шукаюць: сёстры Аня і Вэроніка, і знаёмы Будька Эдвард. Пісаць на адрыс радакцыі.

**П А Д П І С К А Н А 1948 Г.**

Радакцыя часапісу падае да ведама ўсіх чытачоў, што прымаецца падпіска на 1948 г. Умовы падпіскі наступныя:

У Францыі асобны нумар — 30 фр. — на год 300 фр.

У Амэрыцы асобны нумар — 0,25 $ — на год 2,5 $.

У Бэльгіі асобны нумар — 10 фр. б. — на год 100 фр. б.

У Англіі асобны нумар — 1 шыл. — на год 10 шыл. —

У Нямеччыне асобны нумар 3 МР. — на год 30 МР.

Хто прыдбае 5 падпішчыкаў на год атрымае часапіс гратісова. У справе падпіскі у Францыі і Амэрыцы зьвяртацца на адрыс радакцыі, у Англіі да Беларускага Душпастырства ў Лёндане, у Нямеччыне да Беларускага Душпастырства ў Госляры.

**З Ь М Е С Т.**




**Directeur : Abbé L. Horosco.**

Impr. de Navarre, 41, rue des Cordelières, Paris.